# ГОЛАС ЦАРКВЫ

РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ
Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы
*The Voice of the Church,* Published by the Council of the
Byelorussian Autocephalous Orthodox Church
401 Atlantic Ave., Brooklyn, New York, N.Y. 11217, U.S.A. Price $3.00

**No.59** **КАЛЯДЫ 1986/87** **Год 32**

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*Пачэснаму Сьвятарству і ўсім Вернікам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы*

### Дарагія ў Хрысьце Браты і Сёстры!

ДЗЕНЬ Нараджэньня Хрыстовага ёсьць дзень сьвятла і вясельля, дзень радасьці і сьветлае ўрачыстасьці, дзень ласкі і невымоўнага дараваньня. Сяньня „славу на вышынях Богу" Ангелы сьпяваюць, „і на зямлі мір" пастушкі на жалейках іграюць. Віфлеем славу прымае, і вярцеп сьвятлом непрыступным напаўняецца; яські на прастол Цару ўладжваюцца. Дзева Херувімам упадабняецца і зямная робіцца Маці недаступнага Бога. Зорка валхвам шлях паказвае і з Усходу цароў прыводзіць. Сяньня нарадзіўся Хрыстос, — і ўвесь сьвет прасьвяціўся, неба з зямлёй злучылася, і Бог з людзьмі прымірыўся. Сяньня Цудоўны пялёнкамі спавіваецца і Вечны — Дзіця ў целе. Сапраўды гэта жахлівае бачаньне і страшнае слуханьне! Той, Хто жыве ў сьвятле непрыступным і перад Кім са страхам стаяць тысячы тысячаў Ангелаў і Архангелаў ляжыць сяньня ў бедных яськях, і стаяць перад Ім — вол і асёл.

О тайна невымоўная! О ўладжаньне прадзіўнае! Той, Хто адзяецца ў сьвятло як у рызу, спавіваецца сяньня пялёнкамі тленнымі, каб адзець род чалавечы ў адзежу нятленьня. Бог страшны зышоў

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



сяньня ня зямлю, каб зямныя жыхары ўзыйшлі на неба. Уладыка Ангелаў прымае выгляд нявольніка, каб вызваліць чалавецтва ад горкай долі і злучыць яго са сьветам Ангелаў у сьвеце няспыннага вясельля. Сын Божы робіцца сынам Дзевы, каб дараваць людзям сыноўства Божае; стаў бедным Найбагацейшы, каб мы збагаціліся Бажаством Яго: упакорыў Усявышні Сваю веліч, каб мы ўзьнесьліся ў славе Ягонай.

І таму прыйдзеце, Хрысталюбцы, узрадуемся праслаўнаю радасьцю: бо прыблізілася нашае збаўленьне, жыцьця вечнага дараваньне, нятленьня абнаўленьне, — прышэсьцем і нараджэньнем Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Ён прымае наш абраз, каб аднавіць сатлеўшы абраз Адама. Із Адама ўзяла пачатак Ева, віноўніца прысяганьня і злачынства: із Дзевы Марыі нараджаецца Хрыстос, Хадайнік благаславеньня і спасеньня. Там — зьмей на дрэве: тут Хрыстос на крыжы. Там — ежа, што прычыняе сьмерць: тут — ежа, крыніца жыцьця. Там — галізна і сорам: тут — адзеньне і асьвета. Там скураная адзежа пакрывае сорам: тут адзежа славы пакрывае нашую немач, — тут цела Самога Цара і Госпада, адзежа Царская. Бо колькі Вас, гаворыць Сьв. Пісаньне, у Хрыста ахрысьціліся, у Хрыста апрануліся (Гал. 3,27). Там сказана: ты ёсьць зямля і ў зямлю адыдзеш (Быцьцё 3,19); а тут Тварэц, абнавіўшы зямлю, творыць новага чалавека, і не зямлю абяцае яму, але Царства Нябеснае.

Сын Божы стаў Сынам чалавечым дзеля таго, каб выратаваць гінучага чалавека. Ці робім мы што-небудзь з свайго боку у адказ на такую ласку да нас Сына Божага? Кожны з нас павінен усім сэрцам верыць у Хрыста, як нашага адзінага Збавіцеля; усім сэрцам трымацца сьв. Царквы Яго, адзінага ратуючага карабля; навучацца бесьперапынна слова Божага і запаведзяў Яго, і паводле запаведзяў кіраваць жыцьцё сваё; усімі мерамі старацца выпраўляць думкі, імкненьні і схільнасьці сэрца; старацца каяцца безупынна перад Богам, наведваць часьцей Храм Божы, спалучацца з Госпадам у таінстве прычасьця дзеля ачышчэньня грахоў і дзеля ўспрыняцьця духоўнае сілы ў барацьбе з грэхам, жыць у ўзаемнай любові і ўва ўсякай дабрачыннасьці.

Усе мы, што знаходзімся ў вольным сьвеце, павінны быць больш чульлівымі да патрэбаў нашага паняволенага Беларускага Народу, які сам за сябе ня можа дамагацца. Ня маючы свае Царквы, Беларусы на Бацькаўшчыне ня маюць магчымасьці нават памаліцца за лепшую долю свайго Народу, каб Госпад Бог захаваў іх ад няшчасьцяў цяперашніх і будучых.



Найбольшай нашай зброяй ёсьць нашыя шчырыя малітвы ў Цэрквах да Бога і да Яго сьв. Угоднікаў за наш Народ Беларускі, за яго духоўную, культурную і дзяржаўную незалежнасьць у згодзе з воляй Божай.

Вітаю ўсіх Вас і Беларусаў на Бацькаўшчыне з нашым вялікім сьвятам — Нараджэньнем Госпада нашага Ісуса Хрыста!

*Лета Божага 1986*
*месяца сьнежаня*

*†Мітрапаліт Ізяслаў*
*Першагерарх Б.А.П.Ц.*



**З РАДАСНЫМ СЬВЯТАМ НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТОВАГА**

*вітаем*

**Высокапрэасьвяшчэннага Мітрапаліта ІЗЯСЛАВА**

Дастойнае Сьвятарства і ўвесь Клір Царкоўны,
Парахвіяльныя Рады, Брацтвы і Сястрыцтвы,
ды ўсіх Вернікаў
Сьвятой Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы
і ўвесь Беларускі Народ
на Радзіме і на чужыне

*ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ — ЯГО СЛАЎЦЕ!*

Кансысторыя і Рада Б.А.П.Ц. Каляды 1986/87

# Выясьненьне

Дзеля таго, што ў нашым жыцьці на чужыне стварылася сытуацыя, у якой нашым добрым людзям часта цяжка арыентавацца, уважаем за неабходнае даць наступнае выясьненьне.

Найперш сьцьвярджаем, што ўва ўсім сьвеце існуе толькі адна Беларуская Царква і Ёю ёсьць Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква з Яго Высока-Прэасьвяшчэнствам Мітрапалітам Ізяслававам начале. Іншае Беларускае Царквы ў нас няма. І на паднявольнай Бацькаўшчыне свае Царквы мы ня маем. Там непадзельна пануе Масква цераз сваю „Рускую Праваслаўную Царкву", а ў Менску рэзыдуе мітрапаліт, радавіты масквіч. Як усім добра ведама, Царква тая, сяньня на пакорнай службе ў чырвонага Молаха, бессаромна прадаўжае сумнай памяці традыцыі чорнай сотні панішчаючы і зьнішчаючы мову і культуру Беларускага Народу. Шматпакутная гісторыя нашага краю ёсьць неабвержным сьведкам, што Царква тая ўжо даўным-даўно адыйшла ад праўдзівае веры ў Хрыста

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



і ад Яго Навукі.

Але на гэтым не канец нашаму гору... Ёсьць у нас і вораг румар два, гэта Рым. Ён менш пагрозьлівы нам у сучасны мамэнт, але ня менш крывадушны і падступны... Масква імкнецца шляхам русыфікацыі пазбавіць народ наш нацыянальнага твару, свае мовы, культуры і гісторыі, каб такім спосабам пашырыць свае валоданьні. Ватыкан дабіваецца таго самога, хоць і на іншай дарозе: цераз ануляваньне нашай роднай тысячагодняй хрысьціянскай традыцыі, цераз ліквідацыю нашае Сьвятое Царквы ды поўнае падпарадкаваньне сабе рэлігійнага жыцьця ў будучай Вольнай Беларусі, ён стараецца адваявяць страчанае і замацаваць свае валоданьні на Ўсходзе Эўропы.

Як бачым, пляны Ватыкану далёкасяжныя, а адносна нашае Царквы яны яўна варожыя і зьнішчальныя, ды ў гэтым яны цалком супадаюць з плянамі Масквы: над нашымі галовамі, дарагія, чырвоныя і чорныя сатанінскія сілы падалі сабе рукі... Але мы, пад апекай самога Госпада Ісуса Хрыста, Збаўцы нашага, іх ані не баімся. Мы вось зьбіраемся адзначыць тысячагодні юбілей пачаткаў Хрысьціянства ў Беларусі і нашае Сьвятое Царквы, а Ватыкан закладае і ўтрымоўвае сярод нас нейкія „місіі", зусім як сярод дзікуноў Сярэдняе Афрыкі, быццам у нас таго Хрысьціянства ніколі і ня было... Не, не! Навет Ватыкану не пад сілу вырваць слаўныя балонкі з нашае гісторыі.

Не памогуць і іншыя спосабы паніжаньня нашага народу. Як ведаем, галоўным заданьнем сьв. Апосталаў было наварачваньне няверных да веры ў Хрыста-Спаса. Выглядае, што ў Ватыкане ўсё яшчэ глядзяць на Беларусаў, як на нявераў-паганаў, бо вось нядаўна мы дачуліся, што там быў прызначаны чарговы „апостальскі візітатар" для Беларусаў! Якая шкада, што ў сучаснай сытуацыі мы ня можам адудзячыцца назначэньнем з нашага боку „апостальскага візытатара" для Рыму..., бо ёсьць нямала довадаў заняпаду там праўдзівае веры Хрыстовае і Ягонае Навукі. Наагул гэтае добрае ідэі адчыненьня ў будучыні праваслаўнае місіі дзеля пашырэньня праўдзівае веры ў Хрыста Жывога ў Рыме ня трэба зусім закідаць... А тымчасам, дарагія браты і сёстры, нам трэба правільна разумець ролю таго „візытатара" сярод нас, як абразу і паніжэньне нашага няшчаснага народу і спробу ачарненьня нашае тысячалетняе хрысьціянскае традыцыі.

Каб заманьваць людзей, Ватыкан арганізуе пры тых сваіх „місіях" школы, бібліятэкі, музэі ітп, ды ўсё гэта астаецца ўласнасьцю толькі і вылучна Рыму. Шмат хто з нас уважаў за патрэбнае падтрымаць фінансава Бібліятэку і Музэй імя Фр. Скарыны ў Лёндане, пры мясцовай „місіі", і гэта натуральна — усе мы жадаем, каб тая

(працяг на б.26)



# Калядны Зварот
## Хрыстос Нарадзіўся — Яго Слаўце!

*Дарагія Браты і Сёстры Беларусы!*

Кансысторыя Сьвятой Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы шчыра вітае ўсіх Вас з вялікім і радасным сьвятам Нараджэньня Хрыстовага, ды выказвае найлепшыя пажаданьні ўсялякага дабра і шчасьця ў Вашым жыцьці.

На прыкладзе праваслаўных эмігрантаў іншых народаў мы бачым, якое вялікае значэньне мае свая родная Царква ў грамадзка-нацыянальным і культурным жыцьці згуртаваных пры парафіях вернікаў. Такой нашай роднай Царквою ёсьць толькі Б.А.П.Ц., роўна тут на чужыне і на Бацькаўшчыне. Нажаль, двухвяковая страта свабоды нашае Бацькаўшчыны і ліквідацыя Масквою нашае старое Царквы спрычынілася да таго, што каля двух мільёнаў Беларусаў на чужыне па нясьведамасьці сваей астаюцца ў бальшыні пры Расейскай Царкве, а блудная жменька апынулася навет у юрысдыкцыі Грэцкае Царквы.

Дарагія! Пара ўжо нам належна асьвядоміцца ў гэтых фактах і пачаць вызваляцца з „няволі вавілонскай", асабліва тут на вольнай зямлі Вашынгтона. Таму мы яшчэ раз зьвяртаемся з гарачым заклікам да ўсіх раскіданых па Божым сьвеце праваслаўных Беларусаў гуртавацца вакол свае роднае Царквы і ў гэты сьветлы калядны сэзон, калі кажны з нас стараецца абдарыцьпацешыць сваіх бліжэйшых нейкім падарункам, падтрымаць, успамагчы Яе сваімі шчодрымі ахвярамі. Усім ахвярадаўцам сардэчнае дзякуй у Імя Хрыста, Збаўцы нашага.

Ласкавыя ахвяры просім высылаць на адрас:

BAOC Consistory
401 Atlantic Avenue
Brooklyn, N.Y. 11217, U.S.A.

# Праваслаўе й Рымскі Каталіцызм*
## *Агульны пагляд на адносіны паміж Праваслаўнаю й Рымакаталіцкаю Царквою*

Найбольшаю перашкодаю адзінства Рымскае й Праваслаўнае Царквы ёсьць рыма-каталіцкі пагляд, што паяднаньне мае адбыцца шляхам „павароту" Усходніх Цэркваў да папскае „Каталіцкае Царквы". Хоць за апошніх сто гадоў у адносінах Рымскае Царквы да

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



ўсходу праходзіла пэўнае разьвіцьцё, але ня існуе яшчэ супольнае ўявы пра адзінства Рыма-Каталіцкае й Праваслаўнае Цэркваў. Яшчэ й сёньня настаўленьне Рыму да паяднаньня з праваслаўнымі астаецца такім самым, як і раней: Існуе толькі адна Царква, ад якой іншыя Цэрквы адлучыліся (Канонік Бэрнард Паўлей іранічна піша, што гэта адносіцца і да Праваслаўных Патрыярхатаў на Ўсходзе!). Праваслаўныя трымаюцца таго пагляду, што выражэньне „адлучаныя браты", як напісана ў дакумэнце De Ecumenismo", і асабліваe месца, якое прыдзяляецца Рымскай Царкве, як цэнтру акружанаму Цэрквамі й рэлігійнымі аб'яднаньнямі, нібы сатэлітамі, паказвае, што вучэньне Рымскае Царквы адносна ўстанаўленьня адзінасьці Цэркваў не зьмянілася. Асабліва „разьдзел" які датычыць усходніх цэркваў, на шчасьце, вызначаецца клопатамі пра вуніяцкія Цэрквы".

Дыялектычны характар Праваслаўнае Царквы адрозьніваецца ад легалістычнай канцэпцыі Рыму. З аднаго боку, праваслаўныя самі ўважаюцца Хрыстовую Царкваю, якая адзіная захоўвае праўдзівую артадоксію (Праваслаўе), чыстую, незасьмечаную веру, перададзеную апосталамі й раньняю Царквою Айцоў і Ўсяленскіх Сабораў. З другога боку, падтрымоўвае спатканьні й супрацоўніцтва з Цэрквамі, якія адлучаныя ад Праваслаўя. Рыма-каталікі падкрэсьліваюць жаданьне папаў пераканаць Усходнія Цэрквы, каб далучыліся да „Каталіцкае Царквы". Яны выхваляюць усю прыхільнасьць і любоў папаў да ўсходніх хрысьціянаў і падкрэсьліваюць добрую волю папы адносна пашаны прывілеяў Усходніх Цэркваў.

У сваёй энцыкліцы "Praeclara Gratulationis" (1894) папа Леў XIII апісвае традыцыі Ўсходніх Цэркваў з прызнаньнем і любоўю. Але Леў паўтарыў звычайную лацінскую памылку: ён ня просіць, каб паядналася Ўсходняя й Рымская Царква, але вымагае ад Усходняе Царквы, каб „вярнулася" да адзінства. У некаторых іншых справах зьмяніўся папскі слоўнік. Ён сказаў: „Лінія, якая нас разьдзяляе, ня вельмі шырокая. Апрача некалькіх малых пунктаў існуе такая дасканалая згода з усім астатнім, што часта мы адклікаемся на аўтарытэты, вучэньне, звычаі й абрады Ўсходніх Цэркваў у захаваньні каталіцкае веры."

Такое самае становішча заняў Леў XIII у сваіх энцыкліках "Christi Nomen" і "Orientalium dignitas". На гэта адказала Праваслаўная Царква пасланьнем Экумэнічнае Патрыярхіі: „Праваслаўная Царква Хрыстовая заўжды ахвотная прыняць якую-небудзь прапанову дзеля ўзьяднаньня, калі рымскі епіскап раз і назаўсёды адкіне цэлы рад шматлікіх і розных супрацьевангельскіх навізнаў, якія былі ўведзены прыватна да яго Царквы й якія спрычынілі сумнай памяці разьяднаньне Цэркваў Захаду і Ўсходу, калі вернецца да прынцыпаў Сямі Сьв. Усяленскіх Сабораў, прадстаўнікоў усіх Сьвятых Божых Цэркваў, якія былі скліканыя ў імя Духа Сьвятога й якія маюць унівэрсальны й вечны аўтарытэт у Царкве Хрыстовай. У сваіх пісаньнях, як і ў цыркулярных пасланьнях Праваслаўная Царква ніколі не пераставала зазначваць Рымскай Царкве ясна й літаральна, што пакуль яна будзе за ўсякую цану трымацца сваіх навізнаў, а Праваслаўная Царква будзе прытрымоўвацца Божых і Апостальскіх традыцыяў першых дзевяці стагодзьдзяў хрысьціянства, у часе якіх заходнія Цэрквы былі той самай думкі й былі зьʼяднаны з Цэрквамі Ўсходу, то будзе лішнім і дарэмным жаданьне гаварыць аб зьяднаньні. Аб'яднаньне аддзеленых Цэркваў з ёю ў адным правіле веры ёсьць сьвяшчэнным і глыбокім жаданьнемм Сьвятой Кафалічнай Праваслаўнай Апос тальскай Царквы Хрыстовай, але без такое адзінасьці ў веры мройлівае чаканьне аб'яднаньня Цэркваў ёсьць нерэальным. Таму мы сапраўды дзівімся, як найбагаславеньнейшы папа Леў XIII, хоць і сам вызнае гэтую праўду, пападае ў відавочнае самазаспакаеньне й апавяшчае, што кажная Царква й пасьля ўзьяднаньня можа затрымаць свае дагматычныя й кананічныя дэфініцыі, хоць яны і адрозьніваюцца ад дэфініцыяў Рымскае Царквы, як іх апавяшчае Яго Сьвяцейшасьць у сваёй энцыкліцы з 30 лістапада 1894 г."

Патрыярхальнае пасланьне далей падае навізны Рымскае Царквы й гаворыць: „Гэтыя навізны, якія датычаць аснаўных праўдаў веры й адміністрацыйнае сыстэмы Царквы й якія ёсьць супярэчныя са станам Царквы першых дзевяці стагодзьдзяў, робяць немагчымай мройлівую адзінасьць Царквы. І кожнае пабожнае й праваслаўнае сэрца поўнае нявымоўнага жалю, калі бачыць, як іх Рымская Царква горда датрымоўваецца й наагул не памагае сьвяшчэннай адзінасьці адкліканьнем гэтых герэтычных навізнаў і паваротам да старажытнага стану Адзінае Сьвятое Кафалічнае і Апостальскае Царквы Хрыстовае, часткаю якой у той час яна й была."

Рымская Царква ўважае пяршынства папы адзінаю перашкодаю на дарозе да адзінства паміж Усходняю й Заходняю Царквою, у той час як Праваслаўная Царква верыць, што існуе шмат веранавучальных разыходжаньняў, якія прыведзены і ў Патрыярхальным пасланьні. Аснаўное разыходжаньне бачна ў розным разуменьні самога слова „адзінасьці". Еднасьць, у разуменьні Ўсходняе Царквы, азначае адзінасьць у веры, як было ў Пачатковай Царкве, а не „паварот" праваслаўных пад рымскую юрысдыкцыю. Перад падзелам Усходу й Захаду праваслаўныя былі злучаны з папам, а папа з праваслаўнымі, але праваслаўныя ніколі ня былі пад папаю, ці ў юрысдыкцыі папы.

Тое самае становішча адносна Ўсходу знаходзім у даўнейшых апавяшчэньнях папы Пія XI у яго "Rerum Orientalium" (1929) і "Nostris Qua" (1954). Усе гэтыя заклікі да Ўсходу маюць той недахоп, што займаюцца Ўсходняю Царквою як „дысыдэнцкаю", якая мае



© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



„вярнуцца" да Рыму. Усе намаганьні да зьбліжэньня, якія Рым выяўляў адносна Ўсходу, Праваслаўная Царква ўважае за спосаб, мэтаю якога ёсьць не аб'яднаньне Царквы, але падпарадкаваньне Ўсходу пад уладжу Заходу. Але ў апошніх энцыкліках маюцца цікавыя пункты, якія ня можна не заўважаць. Папы ў іх першы раз абвесьцілі, што прымірэньне Ўсходу й Заходу было-б карысным для ўсяе Кафалічнае Царквы — Рымскае й Праваслаўнае. Так, напрыклад, Пій XII у сваей энцыкліцы "Orientales omnes" пісаў, што „з поўнай і дасканалай адзінасьці ўсіх хрысьціянаў будзе мець вялікую духоўную карысьць містчнае Цела Хрыста і ўсе Яго члены". Тут папа першым прызнаў ступень рыма-каталіцкае адказнасьці за разьяднаньне хрысьціянаў.

Маючы на думцы прыведзеныя супярэчнасьці паміж Рымам і праваслаўнымі, мы мусім шчыра прызнаць, што ў сучаснасьці ня бачым ніякіх магчымасьцяў прымірэньня. Мы ведаем, што паміж рыма-каталікамі ёсьць чэсныя людзі, якія на сваіх праваслаўных братоў глядзяць са шчырай прыязьняй, але думаю, што мала ёсьць праваслаўных, якія мараць пра адзінасьць з Рымам. На праваслаўным Усходзе ўсё яшчэ ёсьць глыбокія антырымскія пачуцьці ў выніку настаўленьня, якое да нядаўна рыма-каталікі мелі да Ўсходняе Царквы, а таксама таму, што думаецца, што Рымская Царква зьмяніла хрысьціянскую веру.

Рыма-каталіцкія тэалёгі мяркуюць, што Рым і праваслаўныя „маюць тую самую веру", што трымаюцца пэўнага багаслоўскага мэтаду. А таму, што маюць асобны спосаб думаньня, мусяць займацца суцэльным пытаньнем і не разьдзяляць веры на розныя абмеркаваньні й зрачыся практыкі выбіраньня асаблівых пунктаў у вучэньні і абмяркоўваць іх ізалявана, а асабліва цытаваць Айцоў урыўкамі, ня гледзячы на цэлы кантэкст. Толькі так абодва бакі зразумеюць развіцьцё розных праблемаў, якія зьдзяйсьняюцца у адной ці другой Царкве. Але праваслаўныя думаюць інакш, бо вучаць, што на Захадзе была зьмененая вера й што існуюць перашкоды да поўнага зьбліжэньня, якія сёньня выдаюцца непераможнымі.

*— Архіепіскап Мэтодіос*
*Экзарх Экумэнічнай Патрыярхіі на Вяліка-Брынанію*

——————

*) Пераклад з часапісу „Українське Православне Слово", Нр.8-9 за жнівень-верасень 1986 г., б.б.9-10.

**КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА АЎТАРА**

Арх. Мэтодіос — доктар тэалёгіі, аўтар многіх навуковых працаў, мае сваю рэзыдэнцыю ў Лёндане. Ён прызнае нашу Сьв. Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву. У 1984 г., у час свайго прабываньня ў Лёндане, Яго Высокапрэасьвяшчэнства Мітрапаліт Ізяслаў злажыў Архіепіскапу Мэтодіосу візыту ў яго рэзыдэнцыі, дзе адбылося вельмі прыемнае і прыязнае спатканьне. У час аўдыенцыі, і пазьней на прыняцьці, было парушана шмат важных пытаньняў Праваслаўнае Царквы наагул і нашае Б.А.П.Ц. у прыватнасьці. Сьвятар Б.А.П.Ц., Пратаерэй Ян. Пекарскі, знаходзіцца ў сталым кантакце з Экзархам і часта прымае ўдзел у саслужэньнях.

*—Кансысторыя*



П. Манькоўскі

# Да Ідэі Тысячагодняга Юбілею

Шмат сяньня чуем і чытаем пра тысячагодні юбілей „Хрышчэньня Русі" і ўсе мы ўспрымаем гэта, як нешта само-сабой зразумелае. Тымчасам, калі разгледзіцца бліжэй, справа не выглядае так проста. Перш спытаемся, якая Русь была ахрышчана ў 988-9 гадох? Адказаць ня цяжка: летапісы нам кажуць, што хрэст прыняў тады в. князь кіеўскі Ўладзімір із сям'ёй і сваей шырэйшай раднёй (дынастыяй), ды ўвесь горад Кіеў і аколіцы, г. зн. уся тагачасная Кіеўская Русь у вузкім значэньні. Неабходна тут адзначыць, што ў тую пару ніякае іншае Русі фактычна і ня было (хіба толькі за выняткам Галіччыны і старой Тмутаракані). Праўда, раней былі Русы і ў Ноўгарадзе, ды асталіся па іх сьляды навет пры вусьці Нёмана і ў Прусіі, але пад пару ўладзіміраву іх ужо там ня стала. Адзінай агульнай прызнанай Русяй тады была толькі Кіеўская зямля і яна прыняла хрышчэньне. Гэту дэталь важна ведаць, каб правільна разумець гісторыю ўсходняга славянства.

Вось чаму тую новую хрысьціянскую веру, прапаведваную на старaславянскай мове, пачалі называць „рускай", бо яна пашыралася з Русі, ад кіеўскіх Русаў, на ўвесь славянскі Ўсход. А з цягам часу ад тае-ж веры і людзей, што яе прынялі, пачалі называць „рускімі" хоць з гістарычнымі Русамі яны ня мелі нічога супольнага. Вось такім парадкам і паўсталі ўсе тыя розныя „Русі" — Суздальская, Уладзімірская, Маскоўская і т.д.. Усё пачалося ад „рускай веры", моцны цэнтралітзуючы аспэкт якое добра разумелі і стараліся разьвіваць у Кіеве, дзе ўжо ў пачатку XII ст. летапісец бясконцым князёўскім міжусобіцам супроцьставіць ідэал „адной рускай зямлі..." Усё гэта пераняла ў спадку ад старога Кіева новая дзяржава на Маскве-рацэ, якая вызваліўшыся ад татарскае няволі і пачала свой імпэрыялістычны шлях пад клічам „зьбіраньня рускіх земель..." А Царква, на ганьбу і паніжэньне Веры Вялікай, верна служыла і па сяньняшні дзень служыць той „Матушцы" маскоўскай у першую чаргу, а Хрысту ўжо толькі ў другую... І так ёсьць усюды — нятолькі

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



ў межах СССР (асабліва-ж у БССР і УССР), але і на Захадзе.

Хто-ж тады мае сьвяткаваць тысячалетні юбілей Хрышчэньня Русі? З таго, што сказана, вынікае, што толькі Ўкраінцы і ніхто больш. Іншая рэч, што пра юбілей Хрышчэньня Ўкраіны цяжка пакуль гаварыць, бо на гэта ня маем патрэбных гістарычных датаў. Затое мусім катэгарычна сьцьвердзіць, што тыя, якія гавораць і пішуць пра Хрышчэньне Русі найбольш, г.зн. Расейцы, даслоўна ня маюць да таго Хрышчэньня абсалютна ніякага дачыненьня, хоць і стараюцца яны ўсё прысабечыць, улучна з тым старым прыметнікам „рускі". Гэта ўсякаму ясна і не патрабуе асаблівых довадаў. А калі сама Масква была ахрышчана, ніхто ня ведае і, як відаць, ніколі не даведаецца... Бо з таго, што ведаем, вынікае нязьбіта, што ў пару ўладзіміраву на месцы, дзе сяньня красуецца маскоўскі крэмль, шумела першабытная пушча...

Пасьля гэтага ўступу вынікае крыху трывожнае пытаньне: які-ж тысячалетні юбілей маюць адзначаць Беларусы? Паколькі ўся гэта справа ў нас даволі складаная, разьбярэмся ў ёй сыстэматычна. Вось калі хочам адзначаць тысячагодні юбілей Хрышчэньня Беларусі, дык трэба сказаць, што на гэта няма гістарычных падставаў. Бо ведаем, што на нашых землях яшчэ ў XIV ст. было поўна паганаў. Яшчэ пярэхрыст Ягайла будаваў ім касьцёлы на Лагойшчыне і на Аршаншчыне, хоць і не пасьмеў гнаць іх бізуном да крыжа, як гэта яму радзілі дазнаныя ў заходніх практыках польскія місіянеры. Поўнае завяршэньне павольнага працэсу хрысьціянізацыі Беларусі, асабліва заходняй і цэнтральнай яе частак, трэба лічыць, не наступіла раней, як ажно пасьля грунвальдзкай бітвы, г.зн. пасьля 1410 г., калі край наш урэшце канчаткова вызваліўся быў ад кашмару заходніх рыцараў-місіянераў, што ня ведалі лершага спосабу пашыраньня веры ў Хрыста, як толькі агнём і мячом... Дык вось ня тысяча, а няцэлых 600 гадоў мінула ад таго часу.

Напрашваецца важнае пытаньне: а чаму яно ў нас так сталася? Чаму зацягнулася хрысьціянізацыя Беларусі? Ёсьць на гэта некалькі прычынаў. Першай было геаграфічнае палажэньне нашага краю, які лёг якраз поперак галоўнага сухапутнага шляху з Заходняй Эўропы на Ўсход. Вось гэным шляхам цягам XI і XII ст.ст. плыў да нас няспынны паток новых імігрантаў з Захаду, якія ўцякалі сюды ад агня і мяча заходніх „місіянераў". Вось для іх, пакрыўджаных і прагнаных з зямлі продкаў ня кім іншым як хрысьціянамі..., наша краіна сталася апошнім прытулкам. І якое дзіва, што яны тут, у краі свайго канчатковага пасяленьня, які пачалі зваць Літвой (ад стара-славянскага селітва, пасяленьне), запрысягліся змагацца да канца супроць усіх, хто ім стане ізноў накідаць гэтую рэлігію. У гэтым вострa варожым настаўленьні да хрысьціянства і трэба бачыць галоўную прычыну замаруджаньня працэсу хрысьціянізацыі краю і навет актыўнага адпору місійным высілкам — прыклад: мучаніцкая сьмерць у Вільні сьв.сьв. Антона, Яна і Еўстафа яшчэ за Альгерда! Прыгарнуць такіх да веры Хрыстовае было справай і далікатнай і складанай. Вось чаму ў нас хоць і вельмі-ж марудна, але пашыралася запраўднае хрысьціянства і запраўднымі хрысьціянскімі мэтадамі: ня было ніякага прымусу, нікога не падганялі, нікога ня хрысьцілі гуртам, а толькі індывідуальна і за няпрымушанай згодай чалавека.



Падругое, не апошнюю ролю сыграла ў нас і моцная пачуцьцёвая прывязанасьць нашых людзей да старой рэлігіі продкаў. Вось з таго, як моцна трымаліся людзі тае рэлігіі, можам судзіць, што служыла яна ім добра даўгія вякі і мела глыбокі ўплыў на ўвесь характар іхняга жыцьця цягам многіх пакаленьняў. Гэтым выясьняецца адзін важны, нажаль дасюль гісторыкамі не заўважаны факт, што першы этнанім (вядомы ўжо Тацыту!), якім Немцы і інш. на эўрапэйскім Захадзе азначалі пра-Славянаў (г.зн. раней чымся паявіўся сам тэрмін Славяне) — Wenden, Vinidi, Veneti, а пазьней і Анты — выводзіцца ад ст.сл. sventu, сьвяты(!). Відаць продкі нашыя мелі на гэта свае падставы, каб у тыя далёкія часы іх вялічалі словам „сьвятыя"... Ведаем, што рэлігія пра-Славянаў мела вялікі ўплыў на рэлігіі народаў эўрапэйскага Захаду, Поўначы і навет Поўдня. Нажаль тэма гэта яшчэ належна не распрацаваная дасюль. Ведаем, што рэлігія пра-Славянаў мела манатэістычны характар, што верылі яны ў існаваньне другога сьвету і ў замагільнае жыцьцё, што выразілася ўв агульнаславянскім пахавальным абрадзе спальваньня цела, якое пакінула душа, а таксама ў шырока практыкаваным кульце продкаў, асабліва моцным якраз у нашым краі. Рэч ясная, што цяжка ім было выракацца веры, якой трымаліся іх продкі ад няпамятных часоў, ды ня лёгка было іх пераконваць.

Урэшце трэйцім і апошнім фактарам было тое, што ад самага пачатку нашае гісторыі ў нас ня было такое ўлады, якая магла-б сілком накінуць людзям веру. Прыпомнім сабе, што навет такому абсалютнаму манарху, як Шарлмань, які першым у Эўропе паблытаў крыж з мячом..., узяло звыў 30 гадоў крывавых войнаў і нялюдзкіх зьдзекаў, пакуль яму ўдалося зламаць ваяўнічых Саксаў (і памагаўшых ім Вэндаў), ды змусіці іх да хрышчэньня. У нас нічога падобнага не магло здарыцца, бо княжая ўлада на нашай зямлі ужо здаўна была слабой: у Полацку ўсенароднае веча ўсьцяж зайздросна сьцерагло сваіх традыцыйных правоў, не дазваляючы сваім князём навет мецъ рэзыдэнцыі ў мэжах гораду, а то і зусім праганяючы з пасаду, ды заводзячы рэспубліканскі лад. Праўда, з утварэньнем Вялікага Кнсятва Літоўскага гэтыя адносіны зьмяніліся. Але і там, хоць улада в. князя была моцнай, усё-ж далёка ёй было да абса-

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



лютнай, ды самі князі вялі палітыку няўмяшаньня ў рэлігійныя справы — так было, бязумоўна, толькі да Ягайлы і Вітаўта, якія (разам з усёй дынастыяй) прыняўшы рыма-каталіцтва і сілком ахрысьціўшы Жамойдзь, паламалі векавыя традыцыі літоўскай рэлігійнай талерантнасьці і ўвялі ў жыцьцё дзяржавы чужы рыма-польскі элемэнт, які памалу і давядзе Літву да поўнага занападу.

Калі яшчэ няма як нам адзначаць тысячагодняга юбілею Хрышчэньня Беларусі, дык можа паспрабуем адсьвяткаваць яго пад крыху іншым загалоўкам — як тысячныя ўгодкі першага сутунку нашых продкаў з Хрысьціянствам. Гучыць ня дрэнна, але і тут трэба ўважна аглядацца. Вось, прыкладам, выяўляецца, што ёсьць летапісная вестка, што быццам яшчэ ў 974 г. княгіня Вольга пабудавала ў Віцебску дзьве царквы. Нажаль, з тэй весткай падвойная бяда: нятолькі яе крыніца* мала надзейная, але і дадзены ў ёй год аснаваньня тых цэркваў, 974, стаіць у поўнай супярэчнасьці з фактамі гісторыі. Вось-жа, сама кн. Вольга памерла яшчэ ў 969 г. і не магла зьявіцца ў Віцебску 5 гадоў пазьней навет дзеля такой шляхотнай мэты. Праўда, савецкія гістрыкі Л. В. Аляксееў і Б. А. Рыбакоў (а шмат раней іх і сам А. П. Сапуноў) пастараліся „выправіць" гэту недарэчнасьць, як звычайную апіску перапісчыка — быццам напісаў „974", дзе мела быць „947"..., ды ніхто з іх ня прыкмеціў, што ў 947 г. ізноў-жа кн. Вольга ніякіх цэркваў асноўваць на магла, бо сама прыняла хрысьціянскую веру толькі ў 955 г. Усім гэтым верагоднасьць тае цікавае весткі моцна падкопваецца і, такім чынам, пакуль-што ёю нельга карыстацца. Тым ня менш мы ня хочам думаць, што княгіня Рагнеда/Анастасія і князь Ізяслаў былі ў нас першымі хрысьціянамі, хоць у сілу захапленьня і зьнішчэньня Масквою нашых найстарэйшых летапісаў, ня маем пад рукою дакумэнтальных довадаў на тое, што было інакш. Адно агульна можам сказаць, што як у Кіеве яшчэ доўга да Ўладзіміра было ўжо шмат хрысьціянскага элемэнту сярод жыхарства — у тым ліку і вышэй памянутая яго ўласная бабулька... — таксама быў ён і ў Полацку, у Віцебску, у Смаленску/Гнездаве, ды ўсюды, дзе былі асяродкі культурнага жыцьця тае пары.

Але не падайма духам — на банкет заўсёды прычына знойдзецца, абы ахвота... Хоць, як мы бачылі вышэй, нашыя магчымасьці на адзначэньне некаторых папулярных угодкаў па розных прычынах абмяжаваныя, ды ніхто нам не забароніць адсьвяткаваць тысячагодні юбілей *афіцыйнага пачатку Хрысьціянства* на землях Беларусі, або *пачатку Беларускай Праваслаўнай Царквы.* Гэта прыгожыя і вялікія тэмы; на іх можна багата гаварыць, пісаць і весяліцца, бо іхным зьместам ёсьць вялікая гістарычная праўда пра наш край і народ. Аснаўнымі датамі тут могуць паслужыць: 988-990 г.г. хрышчэньня нашых першых праваслаўных князёў, Рагнеды і яе сына Ізяслава, ды 992 год аснаваньня Епіскопіі ў Полацку, першае ў Беларусі. Нехта суліў навет, каб адзначыць і тысячныя ўгодкі хрышчэньня Смаленску ў 991 г. Чаму не, толькі гэта цікавая вестка патрабуе праверкі. Як бачым, ёсьць у нас дастаткова нагодаў да сьвяткаваньня тысячагодняга юбілею, ды будзе іх штораз прыбываць, бо гісторыя наша з году ў год багацее з ростам нашых усё яшчэ сьціплых ведаў пра „край забраны..."

*) „Летопись города Витебска" з XVIII ст., апублікаваная А. П. Сапуновым у кнізе „Витебская старина", т.І, Віцебск, 1883.



Паўлюк Верны

# Акт Волі Чалавечай у Малітве

Ув адрозьненьне ад іншых стварэньняў на гэтай зямлі Бог даў чалавеку розум, больш ці менш сьветлы, каб ён мог вырашаць надзённыя праблемы свайго жыцьця. Таксама, Стварыцель абдарыў чалавека верай, даў яму магчымасьць верыць у нешта, ці ня верыць, у залежнасьці ад таго, як ён успрымае сваім розумам і пачуцьцямі рэальнасьць акружаючага сьвету. У дадатак да ўсяго гэтага даў Бог чалавеку яшчэ і волю, мацнейшую ці слабейшую, ды нятолькі волю да жыцьця, якога ён бароніць з усіх сіл усюды і заўсёды, але і волю да дабра і зла... Прытым, як хрысьціяне, усе мы трымаемся погляду, што чалавек мае вольную волю, вольны ув апошнім разьліку выбар паміж дабром і злом. Воля ёсьць маторам людзкога жыцьця: нічога не адбываецца ў жыцьці чалавека без удзелу яго волі, навет ув абсалютнай няволі чалавек мае выбар, хоць і вельмі абмежаваны. Акт волі, пастанова, папераджае ўсякі ўчынак чалавека. Гэта бязумоўна адносіцца і да духовага жыцьця людзкога, дзе малітва ёсьць важным дзеяньнем, да якога часта падыходзіцца мэханічна і неразважна. Варта над гэтым астанавіцца крыху шырэй і глыбей.

На днях адзін вядомы евангелісты ў Нью Ёрку ў сваёй нядзельнай навуцы паставіў моцна цікавае пытаньне — „Чаму Бог так часта астаецца глухім на нашыя малітвы?" Адказ яго гучаў прыблізна так: „Ну, бо мы не даем Яму магчымасьці рабіць нам дабро (We give Him no chance...) сваімі грэшнымі паводзінамі ды непаважнымі адносінамі навет да свае малітвы..." І з гэтым цяжка не згадзіцца, тут шмат праўды ў гэтых словах. Ды ўсё-ж, на мой погляд, гэтым адказам ён

© PDF: Kamunikat.org 2014

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



нiяк ня вычарпаў да канца кранутае праблемы, якая ў жыцьцi ахапляе значна шырэйшы абсяг спраў: заўсёды разумеючы дабро на свой лад, звычайны чалавек ня раз пытаецца ў душы — „А чаму гэта Міласьцівы Бог наагул так мала дабра робіць людзям хворым, бедным, акіненым, зьняволеным і крыўджаным, калі Ён усясільны, усё ведае і ўсё бачыць?! Тым больш, што ўсё гэта людзі бездапаможныя, слабыя целам і ўбогія духам, як кажа Евангельле". Як лёгка чалавеку зьвінаваціць навет свайго Айца Нябеснага!...

Нажаль, Божы і чалавечыя пляны для долі людзкое на зямлі гэтай зусім разыходзяцца... З Запаветаў Божых выходзіць, што паняцьце дабра і шчасьця людзкога ў Бога зусім разьбягаецца з такім паняцьцем у разуменьні чалавечым: нам здаецца, што Бог з ласкі Свае і любові да чалавека, якога стварыў у падобнасьць Сабе, павінен быў-бы памагаць яму ў гэтым цяжкім зямным бытаваньні, а ў Ягоным спрадвечным пляне жыцьцё чалавека базуецца на зусім іншых прадумовах. У гэным грандыёзным пляне Божым жыцьцё наша само па сабе ніяк ня можа быць канчатковай сама-мэтай, а ёсьць толькі і вылучна падгатовай, ступенькай да вечнасьці. Затым, хто больш перанясе гора, болі, усялякае бяды і нястачы тут на зямлі, той павялічае свае шансы на вечнае шчасьце і радасьць бясконцую загробную...

Згода, але-ж з другога боку ўсе мы ведаем, як яно часам бывае, што Бог-Бацька зьнячэўку робіць людзям сваім сапраўды цудоўныя рэчы: падымае з упадку, аздараўляе на духу і целе, асьцерагае і часта ратуе ў небяспецы, ад катастрофы, або пасылае вялікае шчасьце, дабрабыт, і т.п.. Гавару тут якраз пра людзей пабожных, што моляцца Богу многа і горача... І так, больш цікавым робіцца ня тое, чаму Айцец наш Нябесны зьвяртае так мала ўвагі на малітвы амаль усіх нас — гэта вышэй выясьнена — але чаму Ён, Усемагутны, усё-ж часам робіць яўныя выняткі, чаму малітвы некаторых з-паміж нас пападаюць якраз ды ў „Божае вушка...", як гэта вобразна кажуць у народзе. Паколькі з волі Божае я стаўся адным з тых шчасьліўцаў, уважаю за магчымае забраць голас у гэтай неабыдзённай справе, каб перадаць мае дазнаньні ўсім тым, хто шмат церпіць ад нягодных слугаў сатаны і ня ведае, як дабіцца тае ласкі Божае і дапамогі.

Вось-жа я цьвёрда перакананы, што Бог Усеміласьцівы займае адносна чалавека і долі людзкое пазыцыю прыхільнага, але нэўтральнага неўмяшаньня... Гэта зусім наадварот, чымся пазыцыя сатаны, які дзень і ноч не дае людзіне супакою, дзе толькі можа стараецца пашкодзіць... Бог даў чалавеку свабодную волю, каб сабе падабраў адпаведны шлях жыцьцёвы ў Ім-жа дадзеных абставінах матарыяльнага існаваньня на гэтай плянэце. Але гэта зусім не азначае, што Бог чалавека пакінуў самому-сабе назаўсёды... Якраз



наадварот: Ён крочыць побач з чалавекам праз усё яго зямное бытавеньне, адно што рэдка хто Яго, Таго велічнага нашага Спадарожніка, прыкмячае... А з тых, хто Яго вялікадушна заўважыць, рэдка каторы зьведае вагу гэтага факту для долі людзкое, а яшчэ радзей хто дадумаецца, што трэба рабіць, як аднесьціся да Таго нябачнага і ціхога, а так Магутнага, ад Каго ўсё залежыць.

Цягам доўгіх год я зразумеў, што пакуль чалавеку пачаць тую праўдзішную малітву, душа яго мае прайсьці цераз колькі важных перамен: перш за ўсё, ён мае „заўважыць" Бога-Творца і ўверыцца ў Яго веліч, як абсалютнага Ўладара сьвету — гэта элемэнтарны акт людзкой веры. Але яно далёка ня ўсё, хоць амаль усе мы на гэтым і спыняемся: „А што? Я ў Бога веру. Чаго больш ад мяне трэба?..." — так нам здаецца, а гэта-ж усяго толькі пачатак, хоць і не благі. Цяпер чарга якраз на акт волі людзкой, без якога далей ані руш... Чалавек мае прыняць пастанову, рашучую, цьвёрдую і нязьменную: узяць сваё ґордае „я" моцна ў рукі, зламаць яго на шчэпкі і адкінуць ад сябе далёка-далёка..., а тады ўсей сваей істотай, ад шчырага сэрца і ад душы, нізка пакарыцца перад неабсяжным маестатам Усесправядлівага Бога Айца і Сына Яго Ісуса Хрыста. Гэтым трэйцім актам, актам пакоры, уласна і пачынаецца малітва хрысьціяніна.

Важным тут для кожнага з нас ёсьць той практычны факт, што без акту волі чалавечай ня бывае і акту пакоры, а бяз гэтага апошняга, як не маліся — Бог не пачуе... Бяз шчырае душэўнае пакоры (а гэта не заўсёды лёгка даецца...)., я ня бачу, як чалавек можа наблізіцца духам да Таго, у чыё „вушка" ён хоча, каб папала яго малітва. А без інтымнага і па магчымасьці частага асабістага кантакту з Богам, із самым Ісусам Хрыстом, малітва становіцца мэханічным пераказаньнем набору слоў і губляе сваё прызначэньне і ўвесь свой эфэкт: бязвольная малітва становіцца бяздумнай — яна ня можа зблізіць чалавека, ані ўстанавіць кантакту яго з Богам.

Усё сказанае набывае асаблівага значэньня, калі мы ў малітве нашай зьвяртаемся да Бога з нейкай просьбай. А просба ёсьць неабходным элемэнтам усякай малітвы і гэта зусім натуральна, бо ў каго-ж прасіць, як не ў Таго, Чыя кладоўка перапоўнена ўсякім дабром... І тут часьценька выяўляецца ў нас слабое разуменьне самой натуры Божае. Нам здаецца, што нельга занадта Богу дакучыць навет малітвамі, а ўжо трэба быць як мага скромнымі з нашымі просьбамі. Якраз наадварот... У кожную пару дня і ночы Богу міла слухаць шчырых малітваў чалавека, ці ён кажа іх штомінутна, ці навет бесьперапынна... А з просьбамі нашымі дык Ён проста неймаверна шчодры — Яму ўсёроўна, ці збавіць адну душу, ці мільён! Але калі просяць толькі за адну, ды яшчэ пры слабой веры і без пакоры (а такімі ёсьць усе малітвы і просьбы скрытага самалюба...) — ня збавіць

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

і нікога. Маліцца трэба нятолькі з верай і ў пакоры, але і з абсалютнай шчырасьцяй, выкінуўшы з душы ўсякую злабу, ненавісьць, зайздрасьць, помсту, эгаізм. А гэта заданьне ня простае, калі падыйсьці да яго сур'ёзна. Але Бог Міласьцівы нам і ў гэтым паможа — ясна, калі самі дадумаемся Яго папрасіць тае дапамогі, ды прасіць трэба цярпліва, ня раз і ня два...

Таму ніколі ня скромнічайце, ані скупіцеся ў малітвах вашых і просьбах, а будзьце заўсёды шчодрымі і вялікадушнымі па прыкладу самога Бога Бацькі вашага на небе і Сына Яго Ісуса Хрыста, Збаўцы нашага. Калі моліцеся за блізкіх сваіх, дык занімайце ў той круг блізкіх якнайбольшы лік людзей, павялічайце той круг якнайшырэй, а будзе вам слава перад Айцом і перад Хрыстом, а людзям нашым, якіх паўсюых гоняць, б'юць і плакаць не даюць..., лягчэй стане пераносіць зьдзек сатанінскі... Вось чаму ў хрысьціянаў адзін-адзінокі праведнік можа стацца вялізарнай сілай... Прыгадайма толькі, як яно было з самым Маісеем: калі ён маліў-прасіў Бога, Ізраільцяне перамагалі ворага, калі-ж зьняможаны апускаў рукі, ворагі бралі верх... Вось так яно ёсьць у Бога Ўсеміласьцівага: Ён толькі і чакае тае нагоды, каб шчодра абдарыць таго, хто ад усяго сэрца і душы, пакорна і шчыра, як вернае Яго дзіця, зьвернецца да Яго за дапамогай.

Варта яшчэ сказаць пару слоў пра канец малітвы. Звычайна, памаліўшыся, мы кажам „амін" і яно правільна, бо мы гэтым старагебрайскім словам пацьвярдзаем праўдзівасьць таго, што мы сказалі. Але з чыста людзкога пункту гледжаньня тут усё-ж нечага не стае. Як выясьнена вышэй, малітва пачынаецца з акту пакоры, але сам малітоўны працэс зараджаецца з акту чалавечае волі, без якога малітвы ня бывае — чалавек мае рашыцца на малітву, гэта ясна. Але я пераканаўся, што малітву трэба і канчаць актам волі, у дадатак да акту веры („амін"), каб замацаваць яе вынікі. Бо аказваецца, што аднэй з прычынаў, чаму так шмат малітваў астаецца неэфэктыўнымі, чаму яны ў поў-дарогі гінуць, недалятаюць да Бога, ёсьць тое, што мы самі мала верым у іхную эфэктыўнасьць: „Ну, папрасіць то можна, а Бог зробіць ужо па Сваей волі..." Так то так, але мы зусім забываемся, што Боскае рашэньне ўсяцэла базуецца на сіле нашае веры: „Хай станецца табе паводле твае веры..." казаў Збаўца наш Ісус Хрыстос, творачы людзям цуды. Бог заглядаецца глыбока ў сэрца людзкое і калі ўбачыць там тое гарчычнае зернятка веры, адбываецца цуда...

Што-ж тады трэба рабіць? А вельмі проста — трэба толькі верыць, што выказаная ў малітве просьба наша **ужо** пачутая Богам, пастанова ў нашу карысьць **ужо** прынятая (часта і выкананая!) і тут-жа Яму за гэта падзякаваць! Цікава і проста, ці-ж ня праўда? Толькі-ж нельга спадзявацца, што адно „дзякуй!", хоць і як упэўненае, зможа выправіць аснаўныя недахопы малітвы (пра іх вышэй), калі такія



ёсьць. Бо над малітваю трэба працаваць доўга і настойліва, трэба паказаць сілу характару і цярплівасьць немалую. Бо звычайна малітва дзеіць адно на доўгую мэту, калі-ж яна дзеіць адразу, гэта ўжо цуда само ў сабе. Так можа стацца з бязбожнікам, калі яго раптам прасьвяціць ідэя пра Бога і гэта бывае, хоць і рэдка. А звычайнай людзіне трэба маліцца, і маліцца, і маліцца, пакуль чалавек ня вырасьце ў веры і духам не ўзмацуецца дастаткова. Запраўды, у інтымным кантакце з Богам цераз малітву душа няўхільна і дзіўна расьце ды дужэе непамерна... Гэтым нятолькі запэўніваецца, але і пазнаецца ды мераецца эфэкт самое малітвы. Калі чалавек не расьце ў малітве сваей, нешта дрэнна з ім і з тэй малітваю.

Астаецца адно важнае пытаньне: ці можна прасіць Усявышняга, каб ня толькі суняў, але каб і пакараў нягодных слугаў сатаны, што ўсяляк атакуюць нас, што зьдзекуюцца над нявіннымі людзьмі дзень і ноч... Ужо той прыклад з Маісеем паказвае, што адказ тут можа быць толькі пазытыўны. А практыка жыцьця кажа тое самае: паколькі іншага выхаду зусім нямашака, людзі здадзеныя на адну Божую Волю, Ласку і дапамогу, а Бог не аставіць тых, хто на Яго спадзяецца! Затым выходзіць, што нятолькі можна, але часта зусім неабходна прасіць тае кары ў Бога на напастнікаў, каб спыніць атаку, ці навет ратавацца ад сьмерці...

І ўрэшце, на канец, справа разам цікавая і важная. Прыпомнім сабе тыя ціхія парады Хрыстовыя таму, хто моліцца: „Будзь спакойны ... Суцішыся ..." На першы погляд гэтыя словы паказваюцца зусім незамыславатымі. Што-ж, пэўне, перад тым, як пачаць малітву, трэба сабрацца з думкамі, астоіцца. І гэта ўсё праўда, толькі далёка ня ўся... Акзваецца, што ў тэй душэўнай цішы крыецца неверагодная сіла і яе меў на ўвазе наш Збаўца. Затым, разьвівайце свае духовыя сілы, практыкуючы абсалютны супакой і цішыню перад тым, як пачаць малітвы. Гэта выпрастае і скароціць вам шлях да інтымнага кантакту з Богам і ўзмацуе вашу абароназдольнасьць перад сіламі сатаны.



# Сьмех Праз Сьлёзы...

— Сябра, дайце што на сабор у Беластоку?

— На маскоўскі сабор?... Што вы з глузду зьехалі, ці маеце мяне за прасьцяка якога, або дурня?

— Нічога, нічога... Вось толькі-што мяне паведамілі, што ў апошнюю хвіліну ўведзена там важная архітэктурная навінка: купалы маюць быць не ў форме маскоўскай цыбулі, а бліжэй да беларускай рэпкі... Як бачыце, пра нашу культуру там не забываюцца...

# Царкоўныя Службы

Праваслаўнае Багаслужэньне можна назваць галоўнаю ўвагаю ўсяго духоўнага жыцьця праваслаўнага хрысьціянства, не гаворачы ўжо аб тым, што ў Таінствах ажыцьцяўляецца нашае духоўнае абнаўленьне й спалучэньне з Хрыстом для вечнага жыцьця. Усе нашыя службы маюць сваю асаблівасьць і мэту ставіць нас у безпасярэднюю блізкасьць да ўсіх найбольшых здарэньняў евангельскіх і ўспамінаў царкоўных ды ў дасягненьнях угоднікаў Божых, як бы зусім здымае час і адлегласьць паміж намі і ўспамінанымі здарэньнямі. Дастаткова, напрыклад, успомніць службы Пакутнае сядміцы, службы Сьветлага Хрыстовага Ўваскрасеньня і іншых сьвяточных днёў, каб выразна пабачыць гэта.

Нашыя царкоўныя службы так уложаны па волі Божай вялікімі Айцамі Царквы, што яны нятолькі не хаваюць ад нас вонкавай абраднасьці успамінаных здарэньняў, але наадварот, робяць іх асабліва нагляднымі й безпасярэдня дзеючымі на нашу душу. Дзякуючы гэтаму, нашае Багаслужэньне зьяўляецца для нас, з раньняга дзяцінства, найлепшай школай хрысьціснскай адукацыі, паведамляе нам у той самы час аб неабходных ведах хрысьціянскіх праўдаў і аб царкоўна гістарычных здарэньнях, і сапраўднае адчуваньне хрысьціянскае душы. Зразумела, прасьветна-адухатвораны ўплыў праваслаўнага Багаслужэньня на нашую душу гэтым паўней і глыбей, чым, з аднаго боку, устаўней і ўрачысьцей выконваецца Багаслужэньне й чым, з другога боку, больш сьведама і ўважней мы ўдзельнічаем у ім сваім розумам і сэрцам. Чым лепш мы знаёмые са зьместам, парадкам, і сэнсам царкоўных службаў, тым з большаю духоваю задаволенасьцю мы будзем удзельнічаць у агульнай царкоўнай малітве.

Чын царкоўных Багаслужбаў і парадак іх выкананьня складаўся паступова. Спачатку ў царкве карысталіся тэкстамі кнігаў Старога Запавету. Так мы чытаем у кнізе Апостальскіх Дзеяў, што хрысьціяне зьбіраліся для малітвы ў вызначаных месцах, дзе сьпявалі псальмы й чыталі кнігі Сьвяшчэннага Пісаньня Старога Запавету, пакулькі кнігаў Новага Запавету яшчэ ня было. Але ўжо ў самым пачатку пачалі складацца чыны чыста хрысьціянскіх Багаслужбаў. Так, у палове першага веку была ўкладзена першая літургія сьв. ап. Якавам, першым епіскапам Ерусалімскім. У асноўным, гэты чын увайшоў у пазьнейшыя літургіі сьв, Яна Залатавуснага й Васіля Вялікага.

Асаблівае разьвіцьцё твораў царкоўных малітваслоўяў і пяяньняў наступіла ў пэрыяд Усяленскіх Сабораў (4-ты па 9-ты век). Падчас Усяленскіх Сабораў быў устаноўлены адназначны чын Літургіі ува



ўсёй Усяленскай Царкве, а таксама і іншых царкоўных службаў. Творамі багаслужэбных тэкстаў займаліся выключна Айцы ўсходняй часткі Царквы, у той час, як Захад стараўся аб пашырэньні межаў царкоўных акругаў і вонкавым уладжаньмі Царквы. Дзеля гэтага й цяпер Усходняя Царква, мае непараўнальна больш малітоўнага матарыялу ў сваім карыстаньні.

На працягу першага тысячагодзьдзя шмат песьняпісцаў і ўкладальнікаў малітваў пакінулі нам свае творы, захоўваныя й па сёньня ў Багаслужбах. Росквіт песьняпеўнае багаслужэбнае творчасьці адносіцца да 7-9 вякоў, калі жылі сьв. Іаан Дамаскім, Козьма Маюмскі, Раман Салодкасьпевец і іншыя песьнятворцы.

Вядомыя ўкладальнікі шматлікіх малітваў. З іх на першым месцы належыць паставіць сьв. Васіля Вялікага. Багаслужэбнае тварэньне ў Царкве ніколі ня перапынялася. Укладваліся асобныя каноны, акафісты й малітвы. Гэты род творчасьці — укладаньне службаў новапраслаўленым сьвятым прадоўжваецца й да сёньняшняга часу. Ня ўсе ўкладальнікі багаслужэбных тэкстваў ведамы. Шматлікія аўтары, праз сваю скромнасьць і пакору, ня выявілі сваіх імёнаў, іншых — страціліся па даўнасьці.

Трэба толькі заўважыць, што самым выдатным з укладальнікаў песьнясьпеваў быў сьв. Іаан Дамаскін. Ім напісаны высоканатхнёныя нядзельныя каноны ўсіх васьмі гласаў, дагматыкі васьмі гласаў, ірмасы канонаў на Вялікдзень, Хрыстовае Нараджэньне і інш. Усе яго творы адрозьніваюцца прастатою ўкладаньня, высокай боганатхнёнасьцю й красою.

У канцы першага тысячагодзьдзя быў уложаны царкоўны ўстаў (Тыпікон), які да цяперашняга часу зьяўляецца дапаможнікам пры выкананьні царкоўных Багаслужбаў Усходняе Праваслаўнае Царквы. Паводля поўнага ўставу Царквы, увесь дзень і частка ночы прысьвячаецца Багаслужэньню. У склад дзённага кругу Багаслужэньня ўваходзяць наступныя службы: Вячэрня, Павячэр'е, Паўночніца, Вутраня, Першы час, Трэйці час, Шосты час, Літургія й Дзевяты час.

У царкоўнай практыцы пералічаныя службы, па жыцьцёвай неабходнасьці, спалучаюцца ў тры групы: вячэрнюю — 9 Час, Вячэрня, Павячэр'е; раньнюю — Паўночніца, Вутраня, Першы Час; дзённую —Трэйці Час, Шосты Час і Сьв. Літургія. Умовы парахвіяльнага жыцьця ў бальшыні выпалкаў затрудняюць штодзённае выкананьне ўсяго кругу царкоўных службаў. Часамі прыходзіцца прапушчаць некаторыя службы й скарочваць зьмест іншых. Поўнае выпаўненьне Багаслужбаў паводле ўставу выконваецца ў манастырах. Галоўным вышэйшым пунктам усіх Багаслужбаў зьяўляецца Сьвятая Літургія, калі Царква ўглядаецца духоўнымі вачамі на зноў прыходзячага на

зямлю ў целе Хрыста Спаса ў Тайніцы Сьв. Прычашчэньня.

Калі да прыходу ў сьвет абяцанага Месіі чалавецтва рыхтавалася праз шматлікія тысячагодзьдзі, дык і да паўтарэньня гэтага найвялікшага Таінства Сьвятой Літургіі патрэбна вядомая падрыхтоўка. Праваслаўная Царква й падрыхтоўвае нас выкананьнем падрыхтоўчых службаў. Усяночная служба, якая адпраўляецца перад Літургіяй у нядзелю й сьвяточныя дні, падрыхтоўвае вернікаў да прысутнасьці на Боскай Літургіі. Мэтай нашай гутаркі зьяўдяецца напомніць нутраны, тайна-містычны зьмест Усяночнай службы, у прыватнасьці першае яе часткі — вутрані. Неабходна папярэдзіць, што часта багаслужэбныя дзеяньні іпесьнясьпевы служаць нам успамінаньнем некаторых здарэньняў, як напрыклад Нараджэньня Хрыстовага й Яго Ўваскрасеньня. У гэтым ня трэба сумнявацца. У вечнасьці няма часу — там і былое, і будучае ў адным пляне. Гэта, зразумела, нам цяжка ўявіць.

---

## З СУМНАЕ ХРОНІКІ:



СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ
**МАТУШКА**
Мітр. Прат. а. Яна Абабуркі
**КАЦЯРЫНА**



Матушка Кацярына

Матушка Кацярына паходзіць з сялянскай сям'і, дачка Андрэя й Ганны, нарадзілася 4-га лістапада 1921 г. у вёсцы Морач, Клецкага павету ў Заходняй Беларусі.

Маючы 16 гадоў належала да царкоўнага хору й сваім маладым ды прыгожым голасам упрыгожвала Божыя Службы. У 1940 г. выйшла замуж за Яна Абабурко і ў 1942 г. нарадзіўся сын, якому далі імя Мікалай — гэта й была найвялікшая радасьць. Нажаль радасьць доўга не патрывала, бо ваенныя падзеі разлучылі Кацярыну з яе мужам Янам і яна асталася са сваім сынком Мікалаем.

Смутак і жаль агартае сэрца маці ды недастаткі ў штодзённых патрэбах, аднак з Божай дапамогай яна ўзгадавала свайго сына, на якога паклала надзею дапамогі на старасьць. Але й тут думкі ня зьдзейсьніліся: сын Мікалай, маючы 24 гады, загінуў трагічнай сьмерцю. Нанова жаль агарнуў сэрца маці. Яна заняпала духова й фізычна і нават лякарская камісія залічыла яе да інвалідаў і на гэта выдала ёй посьведку.



У гэтым часе а. Ян пачаў рабіць захады, каб сьцягнуць яе да сябе ў Англію і, дзякуючы Богу й добрым людзям, гэта зьдзейсьнілася. 31-га сьнежня 1967 г. матушка Кацярына прыбыла да Англіі й па 23-х гадовай разлуцы зноў зышлася з мужам. Па некаторым часе, матушка Кацярына ажыла духова й змацнела фізычна. Яна не агранічвалася толькі сямейнымі заняткамі, але таксама ўкладала шмат працы у ўпрыгожаньне царквы ў Мачэстары.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква была для яе важнейшаю за ўсё і яна аддавала ўсе свае сілы й здольнасьці для Яе дабра. Яна вышывала ўзоры на ручніках, выплетала каронкі рознымі ўзорамі й кожная ікона атуленая такімі ручнікамі.

Матушка так-жа была выдатнай памочніцай для а. Яна ў Божых Службах, як хрост, паховіны і рад другіх трэбаў, асабліва калі выяжджалі па-за Манчэстар. Хоць здароўе яе ня было завіднае, аднак яна заўсёды была вясёлаю, гасьціннаю і хто-бы толькі завітаў да іх хаты, то яна заўсёды вітала мілымі беларускімі словамі, ды гасьціла чым толькі хата багата.

Ня суджана было ёй прадаўжаць зямное жыцьцё, па волі Божай, дня 29-га жніўня 1986 г., а гадзіне 6:30 раніцы, сэрца матушкі Кацярыны перастала біцца і яна заснула на векі, пакінуўшы ў вялікім смутку а. Яна, а ў Беларусі, сястру, братоў з сем'ямі, унучку й праўнука. Сьв. Літургію й адпяваньне адслужыў Прат. а. Ян. Пекарскі (БАПЦ) ў саслужэньні Мітр. Прат. а. М. Хуторнага й Прат. а. А. Максымука (сьвятары УАПЦ).

Паховіны адбыліся 5-га верасьня 1986 г. на магілках Соўтгэн Сэмэтэры ў Манчэстары.

На разьвітаньне прыбыло надзвычай шмат людзей, ня толькі Беларусаў, але шмат іншых нацыянальнасьцяў, якія ведалі пакойную.

Дык сьпі дарагая матушка Кацярына сном спакойным. Хай будзе табе лёгкай Ангельская зямелька й сьніцца табе любая Маці-Беларусь, а Міласэрдны Госпад Бог, Які прыняў душу Тваю, ўселіць там, дзе ўсе праведнікі супачываюць.

*Вечная Памяць.*

## ПАДЗЯКА

Атрымаўшы так вялікую колькасьць спачуваньняў з прычыны сьмерці спадарожніцы майго жыцьця матушкі Кацярыны, я не ў стане падзякаваць кожнаму асабіста. Дзеля гэтага, вось гэтай дарогай перасылаю шчырую падзяку ўсім за Малітвы, за спачуваньні перасланыя лістоўна і выказаныя асабіста, ды за align розная роду дапамогу.

Шчыра, шчыра дзякую.

*— Мітр. Прат. а. Ян Абабурко*



**Сьветлай Памяці**

## МАТУШКА КАЦЯРЫНА

Рада Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Вяліка-Брытаніі і Парафіяльная Рада Царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстары з сумам паведамляюць, што ў пятніцу 29-га ліпеня сёлета, з Божай волі раптоўна адышла ў вечнасьць Матушка Кацярына і просяць малітваў за супакой яе Душы.

Сябры Рады і ўсе вернікі выказваюць глыбокія спачываньні Мітрафорнаму Пратаерэю айцу Яну Абабурку ў страце дарагой спадарожніцы і вялікай супрацоўніцы ў жыцьці. Вечная ёй памяць!

---



**СЬВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ**

## Ерэй АЎГЕН СІТНІК

З вялікім жалем і смуткам у сэрцы паведамляю аб сьмерці нашага настаяцеля Ерэя Аўгена Сітніка, які адыйшоў на вечны супачынак у пятніцу вечарам, 29-га жніевеня, 1986 г., пакінуўшы нашу Парафію Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе без сьвятарскай апекі.

2-га верасьня, 1986 г., чын пахаваньня выканалі: а. Протапрасьвіцер Аляксандар Кулакоўскі з Мельбурнскай Парафіі Б.А.П.Ц. Сьв. Віленскіх Мучанікаў Антона, Яна й Еўстафія; Протаерэй Аляксандар Зелінскі з Украінскай Праваслаўнай Царквы ў Адэляйдзе і Протаерэй Драгалюб Петковіч з Сэрбскай Праваслаўнай Царквы.

Вечная памяць!

*Міхаіл Бурнос* — дырыгент.

---

**З ПАРАХВІЯЛЬНАЕ ХРОНІКІ — АНГЛІЯ:**

## *З Дзейнасьці а. Яна Пякарскага*

• 29 чэрвеня 1986 г., а. Ян прыняў актыўны ўдзел у парафіяльным (прастольным) сьвяце ў царкве сьв. Еўфрасініі Полацкае ў Лёндане (гэта беларуская парафія грэцкае юрысдыкцыі), дзе саслужыў з 5-ма сьвятарамі, між імі а. Вячаслаў Тарановіч (настаяцель) і а. Міхаіл Іскрыцкі з парафіі сьв. Мікалая ў Манчэстары. На тэй урачыстасьці няпрысутнага Экзарха, Арх. Мэтодіоса, рэпрэзэнтаваў Епіскап Хрыстофорос, якога а. Ян добра ведае ўжо з 10 гадоў.

• У нядзелю 1-га чэрвеня г.г., на запросіны Епіскапа Хрыстофораса а. Ян служыў з ім у яго Саборы імя Нараджэньня Прасьвятое Багародзіцы ў Лёндане сьв. Літургію, на якой быў прысутны і Яго Блажэнства Патрыярх Ерусалімскі Діогонос, якога сустракалі ўрачыстай працэсіяй. Патрыярх даў сваё асабістае благаславенства кажнаму з пяці сьвятароў і двох дыяканаў, што саслужылі. Пазьней, на прыняцьці, а. Ян меў нагоду і вялікі гонар асабістай працяглай размовы з Патрыярхам Діогонасам, які шмат распытваў пра нашу Царкву і пажадаў Ёй усякага дабра.



• У суботу 5-га ліпеня г.г., а. Ян і тры іншыя сьвятары саслужылі з а. Шамірам з Антыяхійскае Царквы ў гор. Ст. Олбанс у адымысловай Багаслужбе у час паломніцтва да гробу сьв. мучаніка Олбанса.

• 22 верасьня г.г., Экзарх Экумэнічнага Патрыярхату на Вяліка-Брытанію Арх. Мэтодіос, заклікаў да сябе Царкоўную Раду Пар. Сьв. Еўфрасініі ў Лёндане (грэцкае юрысдыкцыі), і заявіў, што атрымаў ад а. П. Вялікага з Таронта, ліст, у якім а. Вялікі называе а. Яна Пякарскага з БАПЦ „некананічным" і пратэстуе супроць таго, што а. Ян часам служыць у царкве Сьв. Еўфрасініі Полацкае. На ўсё гэта Экзарх заявіў, што а. Ян мае ягонае благаславенства на служэньне ў падлягаючай яму царкве. Уся Ц. Рада была вельмі задаволена з гэтага асьведчаньня Экзарха.

• 7-га кастрычніка г.г., Пратаерэй а. Ян. Пякарскі быў прыняты Экзархам, Арх. Мэтодіосам на адмысловай аўдыенцыі.

## *Пашана Змагаром за Волю й Незалежнасьць Беларусі*

• У нядзелю 16-га лістапада 1986 году парафіяне і вернікі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Парафіі сьв. Спаса ў Брадфардзе, Ангельшчына, ўрачыста адзначылі дзень паміnаньня змагароў за вольнасьць і незалежнасьць Бацькаўшчыны БЕЛАРУСІ.

Багаслужбу і Малебен за ўсіх паўшых, памёршых і загінуўшых у змаганьні адслужыў настаяцель Царквы, Мітр. Прат. а. Ян Абабурка пры помачы хору з Манчэстару. У Царкве сабралася даволі шмат людзей, для якіх Праўленьне і сябры Гуртка „Васількі", Беларускай Незалежніцкай Думкі ў Англіі, удэкаравалі прастол нацыянальным бел-чырвона-белым сьцягом і пагоняй, ды букетамі жывых кветак у нацыянальных колерах і сініх васількоў.

Па заканчэньні Паніхіды і прыналежнай, патрыятычнай казані а. Яна Абабуркі, родныя і сябры паехалі на магільнік, дзе пахаваныя на вечнасьць былыя сябры, бацькі і маткі, каб з малітвай да Бога ўспомніць важнасьць іхнай працы, ды памятаць іх на векі. Кветкі з Царквы былі прывезены на магільнік і пакладзеныя на магілы сьв. пам. суродзічаў Беларусаў.

## З ПАРАХВІЯЛЬНАЕ ХРОНІКІ — АЎСТРАЛІЯ:

### *Парахвія Сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне*

**1.** Ужо ўвайшло ў нас у звычай, што ў дзень Хрыстовага Ўваскрасеньня (Вялікдзень), пасьля ўсяночнай і пасьвячэньня Пасхаў, у прыцаркоўнай залі вернікі з Настаяцелем супольна разгаўляюцца традыцыйным яйцом з бабкаю — добры прыклад.

**2.** Як і ў мінулыя гады ў Фаміну нядзелю (ап. Тамаша), пасьля сьв. Літургіі, суродзічы ў вялікай колькасьці сабраліся на беларускім магільніку, пры агульным памятніку, каб аддаць пашану супачылым бацькам, сваякам, і знаёмым. Адслужана была Паніхіда і адбылося пасьвячэньне памятнікаў.

**3.** 21-га чэрвеня, 1986 г., міжцаркоўная арганізацыя ў Мэльбурне ўрачыста адзначыла Зыход Сьвятога Духа на Апосталаў. Парахвію Б.А.П.Царквы рэпрэзэнтавалі: Настаяцель, а. Аляксандар і сп. Захар. Прысутнічала багата духавенства і вернікаў шматлікіх цэркваў і нацыянальнасьцяў.

**4.** 13-га ліпеня 1986 г. заходняя частка Мэльбурну адзначала традыцыйную гадавіну. Удзел брала духавенства: Пратэстанцкіх, Рыма-Каталіцкіх і Праваслаўных Цэркваў. Прысутнічала багата людзей і прдстаўнікі муніцыпальных консулаў. Парахвію Б.А.П.Ц. рэпрэзэнтаваў а. Аляксандар.

**5.** 27-га ліпеня, 1986 г. ў Мэльбурне, адзначаўся Тыдзень Паняволеных Народаў. Адслужаны быў Малебен — саслужыла духавенства Праваслаўнага, Рыма-Каталіцкага і Пратэстанцкага абраду. Прысутнічала многа людзей. Прысутных на Малебене ў Катэдры сьв. Патрыка багаслаўлялі: пастар Гросбах — Лютаранскае Царквы, а. Аляксандар — Праваслаўнае Царквы, дын Чэмбэрляйн — Рыма-Каталіцкай Царквы. У вечары, у аднэй з найпапулярнейшых залаў „Даллэс Брукс Гол" адбыўся міжнацыянальны канцэрт. Беларускую калёнію рэпрэзэнтаваў гурток „Каліна". Вельмі ўдала атрымаліся песьні і танцы за што гурток быў узнагароджаны бурнымі воплескамі і воклікамі „брава".

**6.** 17-га лістапада, 1986 г. у Монаш Унівэрсытэце, гор. Клейтон, штат Вікторыя, адчынена была выстаўка „Беларусь і яе кнігі", якая працягнецца да сакавіка 1987 г. З нагоды выставы аддзел Славянскіх Моваў выдаў адмысловую брашуру, у каторай досыць добра насьвятляецца гісторыя Беларусі — нашае культуры, пісьменьніцтва, рэлігіі і дзяржаўнасьці. Наагул выстава паслужыць для пашырэньня веды пра Беларусь сярод наведвальнікаў унівэрсытэту а перадусім Факультэту Славянскіх Моваў. Пасьля адчыненьня жанчыны-беларускі зладзілі прынагодны пачастунак. Прысутнічалі, таксама, загадчыкі Бібліятэкі і прафэсары. Ад парахвіі Б.А.П.Ц. прысутнічалі а. Аляксандар і Ірэна. Пры арганізаваньні выставы найбольш пазабоціўся праф. Марвн (Чэх).



**7.** 15-га лістапада 1986 г. адыйшоў у вечнасьць сьв. пам. Мікалай Яўневіч. Пакойны пражыў 67 гадоў, зь іх 36 у Аўстраліі. У 12-ці гадовым веку яго бацька, як „вораг дзяржавы" і як „кулак" быў вывезены за Ўрал, але з дапамогаю сястры змог вярнуцца. Як у Нямеччыне, так і ў Аўстраліі не пахіснуўся — цьвёрда абстойваў усё беларускае. Належаў да Парахвіі Б.А.П.Царквы і шчодра дапамагаў нам фізычна, маральна і матарыяльна. Паходзіў з Мсьціслаўля. Пакінуў у смутку жонку, двух сыноў і дзьве ўнучкі. Пахаваны 18-га лістапада, 1986 г. Вечная яму памяц.

---

# ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

Дарагія браты ў Хрысьце!

Пішу Вам ліст, бо мяне непакоіць адна рэч. Ужо ад даўжэйшага часу па розных асяродках беларускай эміграцыі вядзецца безадказная акцыя збору грошай пад гучным клічам „у дарамогу Беларусам Беласточчыны", а фактычна дзеля пабудовы сабору ў Беластоку і іншых цэркваў там. Здавалася-б, што благога ў тым, каб памагчы нашым братом у Польшчы? Нажаль, тут скрываецца подступ...

Хоць Польская Праваслаўная Царква афіцыйна цешыцца статусам Аўтакефальнай, г.зн. незалежнай ад Маскоўскага Патрыярхату, але факты дастаткова паказваюць, што Яна моцна трымаецца старых маскоўскіх традыцыяў і ў Ёй непадзельна пануе маскоўскі дух ды мова, хоць дапускаецца і ўрадавая польская мова. Толькі нідзе і ніколі ня чуваць там мовы беларускай, хоць і абслугоўвае Яна ўсё беларускае жыхарства сучаснай Польшчы. Нажаль, нічога ў гэтым ня мяняе і не памагае факт, што Мітрапалітам Варшаўскім ёсьць Беларус з Беласточчыны... Чалавек гэта нясьмелы і бясхрыбетны, якому выбілі з мазгоў усё роднае. Вытварылася там зусім абсурдная сытуацыя: Галава Царквы і вернікі Беларусы, а духавенства пагалоўна пра-маскоўскага кірунку! Ды яны настолькі зацятыя супроць Беларусаў, што калі іх прыцісьнуць, тут-жа пераходзяць з расейскай на польскую мову — абы не на беларускую! Духаўнікі-Беларусы там пад такім чорнасоценным тэрорам, што баяцца пасвойму і слова пікнуць...

З усяго гэтага вынікае важнае патаньне: каму тады фактычна памагаюць тут тыя нашыя „ініцыятыўныя групы" безадказных і нікім не ўпаўнаважаных шалапутаў, якія высылаюць паважныя сумы ў

Беласточчыну, адкуль ім ідуць салодкія падзякі (а як-жа, пісаныя пабеларуску!...)? Ці ім ня ведама, што тыя саборы і цэрквы, будаваныя Беларусамі і за беларускія грошы, аўтаматычна стануць уласнасьцяй Маскалёў, што валодаюць Польскай Царквою, і будуць выкарыстаныя дзеля далейшага нішчэньня беларушчыны на беларускай зямлі... Ці шлючы туды сотні і тысячы даляраў, паставілі гэтыя „ініцыятары" хоць мінімальную вымогу, каб у тых цэрквах, што пабудуюцца за гэтыя грошы, хоць раз у месяц ды прагучала пропаведзь на беларускай мове? Ня чуваць, каб гэта каму прышло ў галаву... Божа Сьвяты зьмілуйся над намі грэшнымі і прасьвяці нас —колькі яшчэ цемнаты ў гэтым няшчасным народзе?!

А мяне моцна цікавіць становішча нашай Сьвятой Б.А.П.Царквы ў гэтай справе.

Ваш у Хрысьце, Збаўцы нашым,
Вернік Б.А.П.Ц.

*Адказвае Касысторыя Б.А.П.Ц.*

Вельмі Паважаны Спадару!

Парушаная Вамі справа вельмі важная і Кансысторыя падзяляе Вашае абурэньне з прычыны безадказнай акцыі асобаў, якія ня маюць лепшага занятку, як толькі успамагаць варожы наступ на Беларусаў. Гэта не азначае, што мы ёсьць супроць будаваньня праваслаўных цэркваў, але толькі, што мы ёсьць рашуча супроць таго, каб Беларусы пасаблялі той Царкве, якая актыўна служыць тым, хто імкнецца да загубы беларускай мовы і культуры. Сьцьвярджаем, таксама, што наша Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ня мае ніякага малітоўнага кантакту з Польскай Праваслаўнай Царквою.

---

# ВЫЯСЬНЕНЬНЕ

(працяг з б.4)

бібліятэта і музэй разьвіваліся. Нажаль, лёс тае ўстановы на далёкую мэту вельммі няпэўны, бо Ватыкан, гэта інтэрнацыянальная арганізацыя: усё добра, як доўга ёю, тэй установай, кіруюць Беларусы, але існуе яўная небясьпека, што калі яна апыніцца ў чужых руках, усе высілкі і ахвяры могуць пайсьці на марна... Зусім падобная небясьпека пагражае і іншым пачынаньням Беларусаў у рамах чужых сыстэмаў (пр. арганізаваньне тых гора-кананічных парахвіяў беларускіх пад грэцкай юрысдыкцыяй) — усё гэта будаваньне замкаў на лёдзе... Не, дарагія. Трывалых нацыянальна-культурных дасягненьняў



мы можам дабіцца толькі ў сваіх родных арганізацыях. Вось такой свойскай, жыцьцяздольнай і жыцьцядайнай арганізацыяй, што базуецца на нашай тысячалетняй рэлігійнай і нацыянальнай традыцыі, ёсьць наша Сьв. Б.А.П.Ц.: штоколечы ўжо створана, ці творыцца сяньня, або будзе ў Ёй створана ў будучыні, астаецца нашым, беларускім, назаўсёды! Бо гэта ў нас адзіная жывая такая арганізацыя рэлігійна-дзяржаўнага характару, сусьветнага маштабу. Усе іншыя аказаліся папяровымі фікцыямі, творамі фантазіі амбітных адзінак. Вораг гэтае ведае і таму стараецца Яе загубіць усімі даступнымі яму спосабамі. Пара ўжо і нам, дарагія браты і сёстры, зразумець гэту простую, але вялікую праўду, ды пачась успамагаць сваю родную Царкву шчодра, ад шчырага беларускага сэрца — у Імя Ісуса Хрыста, не баючыся сатанінскіх пагрозаў.

*— Кансысторыя Б.А.П.Ц.*



КАЛЯДЫ — 1986/87

# ЗЬМЕСТ